*Амэрыканская прэса піша, што Беларусь ператвараецца ў паранаідальную дзяржаву (чытайце стар.5)*

# СВАБОДА


Год заснаваньня 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец "Газэта СВАБОДА, Ltd."
Наклад 93 000
Адрас рэдакцыі:
220088, Менск, вул.Іванаўская,56
Тэл./факс 362441

27 кастрычніка 1995 г. №46 Кошт свабодны


## Выбух у "Добрушы-6"

*Чатыры чалавекі загінулі*

**У аўторак, 24 кастрычніка на сумесным беларуска-амэрыкана-ангельскім прадпрыемстве "Белканверс", якое знаходзіцца на тэрыторыі вайсковага гарадка "Добруш-6" у Гомельскай вобласьці, здарылася аварыя.**

Каля 15-й гадзіны дня на вытворчым участку драбленьня пораху нечакана адбыўся выбух і ўзьнік вялікі пажар. Агонь з часам удалося ўтаймаваць, але без ахвяраў не абыйшлося. На месцы здарэньня адзін чалавек загінуў адразу, а трое параненых, якіх даставілі ў шпіталь, памерлі потым ад цяжкіх апёкаў.

З папярэдніх дадзеных экспэртызы вынікае, што выбух адбыўся ад іскры і загараньня 15 кг. пораху.

Гэтае сумеснае канвэрсійнае прадпрыемства было створана 2,5 гады таму. Ангельская фірма і амэрыканская кампанія прадставілі сваё абсталяваньне для ўтылізацыі боезапасаў, якія савецкая армія назапасіла на тэрыторыі Беларусі. Планавалася перапрацаваць на заводзе 50 тыс. тон розных відаў снарадаў, з іх 12 тыс. тон у гэтым годзе. Прыбытак ад утылізацыі павінен скласьці 2,5–3 млн. даляраў.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

## Захаранка патрабуе прыцягнуць прэзідэнта да крымінальнай адказнасьці

**Камэнтуючы сваю адстаўку і вылучаныя прэзідэнтам Лукашэнкам супраць яго абвінавачваньні былы міністар унутраных справаў Юрый Захаранка заявіў, што "асноўнай прычынай маёй адстаўкі сталі разыходжаньні з Аляксандрам Лукашэнкам у шэрагу ключавых пазіцыяў. Гэта непрыняцьце прэзідэнтам курсу на пабудову прававой дзяржавы; непрыняцьце мною стыля і мэтадаў ягонага кіраўніцтва; удзел у кіраваньні дзяржавай малакампэтэнтных людзей, а часта і проста несумленных; самаўхіленьне структураў улады ад барацьбы са злачыннасьцю".**

Ю.Захаранка таксама адзначыў: "На сустрэчы з вэтэранамі прэзідэнт абвінаваціў мяне ў злоўжываньнях, сувязях з мафіёзнымі структурамі, пагражаў выбаршчыкам нелюбоўю, калі яны прагаласуюць за мяне. Я вельмі добра ведаю Лукашэнку, каб крыўдаваць на яго за беспадстаўныя абвінавачваньні. У ягоных дзеяньнях ёсьць склад злачынства, прадугледжаны артыкулам 128 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь (паклёп). Як былы сьледчы прапаную выконваючаму абавязкі Генэральнага пракурора Васілю Капітану адкрыць кодэкс і выканаць свой службовы абавязак, узбудзіўшы таксама крымінальную справу па артыкуле 167 (перавышэньне ўлады ці службовых паўнамоцтваў) і 187 (непадпарадкаваньне прадстаўніку ўлады). Менавіта так я кваліфікую дзеяньні тых, хто, спасылаючыся на ўказ прэзідэнта, не пускаў мяне ў службовы кабінэт, калі яшчэ ня быў падпісаны ўказ аб адстаўцы, і я заставаўся міністрам. Вінаватыя павінны быць прыцягнутыя да крымінальнай адказнасьці. Прашу Васіля Капітана лічыць гэтую інфармацыю афіцыйнаю заявай."

"Прэзідэнт выдатна ведаў, што з маімі прававымі ўстаноўкамі я ніколі не пайду на парушэньне Канстытуцыі і законаў, – кажа Ю.Захаранка. – А сёньняшнія нашыя крокі тлумачацца рэвалюцыйнай мэтазгоднасьцю растаптаць Канстытуцыю, растаптаць закон. Такая ж рэвалюцыйная мэтазгоднасьць была і ў трыццаць сёмым годзе. Да гэтага часу косьці выкопваем. І калі ёю будуць працягваць кіравацца сёньня, мы прыдзем да такога ж выніку. Я проста не хачу быць удзельнікам гэтага працэсу. Сёньня ўстаноўка ў адносінах да сілавых структураў адназначная: нікога не цікавіць барацьба са злачыннасьцю, пытаньні, зьвязаныя з абаронай народу. Задача адна – мець на чале сілавых структураў бяздумных людзей, якія будуць выконваць любы загад, не цікавячыся наступствамі. Ну а мэта ўсяго гэтага – абсалютная асабістая ўлада".

**СІМ**

## У Нью-Ёрку Лукашэнку сустрэла дэманстрацыя пратэсту

**На Генэральнай асамблеі ААН у Нью-Ёрку ў нядзелю, 22 кастрычніка пачаліся выступленьні кіраўнікоў дзяржаваў, якія зьяўляюцца членамі ААН**

Выступленьні працягваліся тры дні. Кожны з лідараў краінаў, за выключэньнем прэзідэнта Злучаных Штатаў, гаварыў ня больш за пяць хвілінаў. Сярод выступоўцаў у першы дзень быў і беларускі прэзідэнт Лукашэнка.

Паралельна гэтым выступам, у нядзелю каля будынку ААН прайшоў шэраг дэманстрацыяў розных нацыянальных групаў, у тым ліку і дэманстрацыя пратэсту супраць палітыкі рэпрэсіяў, якую праводзіць адміністрацыя і ўрад прэзідэнта Лукашэнкі. Арганізавалі дэманстрацыю дванаццаць беларуска-амэрыканскіх і адна беларуска-канадзкая арганізацыя. Сярод іх Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, Беларускі кангрэсавы Камітэт Амэрыкі, Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва, сусьветнае Згуртаваньне Беларускіх габрэяў, Згуртаваньне беларусаў Канады і іншыя. Усе яны стварылі Кааліцыю ў абарону дэмакратыі і правоў чалавека ў Беларусі і сумесна арганізавалі дэманстрацыю.

На пляцы імя Гамэршэльда каля будынку ААН сабралося каля 200 амэрыканскіх беларусаў са штатаў Нью-Ёрк, Нью-Джэрсі, Канэктыкут, Пэнсільванія, Агаё з беларускімі бел-чырвона белымі і амэрыканскімі сьцягамі. Некаторыя дэманстранты былі апранутыя ў беларускія нацыянальныя строі. Людзі трымалі плакаты "Лукашэнка – прыгнятальнік Беларусі", "Не – аднаўленьню савецкай імпэрыі", "Спыніць тэрарызаваньне апазіцыі", "Далоў лукашызм", "Цэнзура – гэта дыктатура", "Свабоду прафсаюзам" ды іншыя.

Падчас двухгадзіннай дэманстрацыі прадстаўнікі кааліцыі давалі інтэрвію карэспандэнтам і распаўсюджвалі інфармацыйную літаратуру пра ўціск свабодаў у Беларусі. Дэманстранты скандзіравалі лозунгі, пелі беларускія патрыятычныя песьні.




*Дэманастранты на пляцы Гамэршэльда каля будынку ААН*

**Здымкі Анатоля БЕЛАГА**




Прадстаўнік канфэдэрацыі амэрыканскіх прафсаюзаў, дырэктар вашынгтонскага Інстытуту свабодных прафсаюзаў, сп.Пол Самаджы зачытаў перад дэманстрантамі заяву Амэрыканскай канфэдэрацыі працы ў абарону Свабодных прафсаюзаў Беларусі, забароненых Лукашэнкам. Быў прыняты таксама зварот удзельнікаў дэманстрацыі да дэмакратычных урадаў сьвету з просьбай дапамагчы беларускім дэмакратам абараніць сувэрэнітэт беларускай дзяржавы і свабоду ў Беларусі.

Цёплым сонечным днём каларытная беларуская калона прайшла па вуліцах Нью-Ёрка, прыцягваючы ўвагу фота- і тэлекарэспандэнтаў.

Напрыканцы дэманстрацыі ейныя ўдзельнікі прасьпявалі беларускі нацыянальны гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

Сродкі масавай інфармацыі (у тым ліку найбольш уплывовая газэта New-York Times) ў аглядзе падзеяў дня распавялі пра дэманстрацыю беларусаў.

**Янка ЗАПРУДНІК, Нью-Ёрк**



## Закрытая сустрэча ў касьцёле

**У панядзелак, 23 кастрычніка ў катэдральным касьцёле ў Менску адбылася сустрэча, якая мела закрыты характар, паміж кардыналам Казімерам Сьвёнтакам і Аляксеем Жыльскім, старшынём урадавага Савету па справах рэлігіі.**

Абодва бакі адмаўляюцца даць прэсе якую-небудзь інфармацыю. Аднак нам стала вядома, што Аляксей Жыльскі азнаёміў кардынала са сьпісам, у якім фігуруюць прозьвішчы 30 ксяндзоў-месіянэраў, якія павінны неадкладна пакінуць тэрыторыю Беларусі. Усе яны, як заявіў сп.Жыльскі, парушылі Палажэньне аб знаходжаньні сьвятароў і месіянэраў на тэрыторыі Беларусі.

Як мы ўжо паведамлялі, гэтае Палажэньне, якое было сёлета ў ліпені зацьверджана Кабінэтам міністраў, значна ўскладняе дзейнасьць усіх канфэсіяў, апрача праваслаўнай.

**Казімір ФУНТ**

**Дзяды**

*У нядзелю, 29 кастрычніка, актывісты БНФ у Менску ды іншых гарадох Беларусі возьмуць удзел у талацэ, падчас якой будуць упарадкаваныя могілкі і памятныя мясьціны*

**Асноўныя мерапрыемствы, прысьвечаныя Дзядам (дню ўшанаваньня продкаў), Народны Фронт правядзе 2-га лістапада.**

У гэты дзень, аб 11-й гадзіне раніцы ў Менску пачнецца вахта памяці ля будынку былога НКВД на рагу праспэкта Скарыны ды вуліцы Гарадзкі вал. Пад мурамі будынка, з якога пачынаўся пакутлівы шлях тысячаў бязьвінных людзей у Сібір ды ў Курапаты, зьявіцца памятная капліца, будуць ускладзеныя кветкі, выступяць вязьні камуністычных рэпрэсіяў. А 12-й гадзіне ў парку Чалюскінцаў пачнецца гадзіна смутку ля помніка ахвярам сталінскага тэрору. А 13-й гадзіне адбудзецца мітынг-рэквіем у Курапатах, а 16-й гадзіне пройдзе асьвячэньне крыжа памяці ахвяраў сталінскага тэрору ў Лошыцы. Актывісты Беларускага Народнага Фронту заклікалі менскія ўлады паспрыяць забесьпячэньню парадку падчас жалобных мерапрыемстваў.

**Павет**

## У Калінінград праз Польшчу?

*На мінулым тыдні Горадню наведала дэлегацыя абласной адміністрацыі Калінінградскай вобласці*

Разам з ёю ў горадзе два дні знаходзіўся прадстаўнік расейскага міністэрства замежных справаў у гэтай вобласьці Артур Кузьняцоў. А з Менску прыяжджаў намесьнік гандлёвага прадстаўніка Расеі сп.Кальчанка.

Расейская дэлегацыя наведала некалькі прадпрыемстваў, а таксама КПП у Брузгох на беларуска-польскай мяжы. На сустрэчы ў кіраўніка адміністрацыі вобласьці А.Дубко абмяркоўваліся пытаньні пашырэньня сувязяў двух рэгіёнаў, у прыватнасьці, магчымасьць пастаўкі на расейскі рынак прадукцыі некаторых гарадзенскіх прадпрыемстваў. Расейцаў таксама цікавіў стан нашых камунікацыяў. З гэтага вынікае, што яны хацелі б шырэй выкарыстоўваць ня толькі літоўскі, але і польскі транспартны калідор для сувязяў Расеі з Калінінградзкай вобласьцю, паміж якімі знаходзіцца тэрыторыя дзьвюх краінаў – Беларусі і Літвы.

Дарэчы, у Горадні дагэтуль працуюць два прадстаўнікі расейскай мытні і 5 кансультантаў, якія пэрыядычна наведваюць памежныя КПП.

**С.А.**

## Галадоўка мела вынік

*Зарплату рабочым выплацілі, але галадоўшчыка пакаралі*

Пра "крамольны" учынак рабочага магілёўскага заводу "Зеніт" Мікалая Расюка СВАБОДА ўжо паведамляла.

Ен правёў галадоўку пратэсту, патрабуючы, каб рабочым выплацілі заробак.

Адміністрацыя выплаціла грошы спачатку Расюку (300 тыс.) і праз некаторы час пачала аддаваць грошы астатнім рабочым. Але самому галадоўшчыку абвесьцілі строгую вымову "за парушэньне працоўнай дысцыпліны і невыкананьне дзённага заданьня". Апроч таго яго пазбавілі месячнай прэміі (300 тыс. рублёў). Свабодны прафсаюз лічыць пакараньне незаконным і падаў зыск у суд, каб адмяніць рашэньне. Акрамя таго СП будзе змагацца ў судзе за грошы, вылічаныя з заробкаў рабочых за 6 месяцаў гэтага года на прафсаюзныя складкі і дагэтуль не пералічаныя на рахунак прафсаюзу. Куды падзеліся гэтыя 20 млн. рублёў ня ведае ніхто.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Самалёт, які не вярнуўся з бою

Полацкія школьнікі з патрыятычнага клубу "РВС" знайшлі рэшткі самалёта, зьбітага падчас вайны ў раёне вёскі Еўмена Полацкага раёну. Парэшткі экіпажу будуць перазахаваныя.

**Васіль КРОКВА**

## Сямён Домаш ідзе на вёску

**У панядзелак, 23 кастрычніка, ў гарадзенскай абласной студыі тэлебачаньня адбылася сустрэча журналістаў са старшынём абласнога Савету С.Домашам**

**Вядома, што ён мае намер балатавацца ў Вярхоўны Савет у Шчучынскім раёне.**

Падчас травеньскіх выбараў ён быў вылучаны ў чатырох акругах, у тым ліку і ў Шчучынскім раёне, а таксама ў Горадні. Паколькі стасункі паміж С.Домашам і Аграрнай партыяй былі выразна незычлівыя, то ён балатаваўся ў горадзе – у Сувораўскай акрузе, дзе знаходзіцца аўтакамбінат, якім ён калісьці кіраваў. Ён, аднак, ня змог тады трапіць у другі тур, але быў абраны ў новы склад абласнога Савету, які пакуль мае менш за палову дэпутатаў – 43 з 90.

Тое, што С.Домаш сёньня вырашыў зноў балатавацца ў Вярхоўны Савет і ўжо ў сельскай акрузе, сьведчыць, што яму ўдалося дамовіцца аб падтрымцы са старшынём аблвыканкаму А.Дубко, які хоць афіцыйна і не зьяўляецца сябрам Аграрнай партыі, але па-ранейшаму захаваў у ёй свой уплыў. Нагадаю, што аграрнікі цалкам валодаюць сітуацыяй на вёсцы і перамаглі на Гарадзеншчыне ў травеньскіх выбарах. Аднак 14 акругаў вобласьці застаюцца пакуль без дэпутатаў.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

## У Мсьціслаўскім раёне пачалі адраджаць таварыскія суды

Цяпер іх налічваецца ўжо паўсотні. Праўда, правоў яны практычна ня маюць. Самае цяжкае пакараньне, якое можа вынесьці таварыскі суд – хадайніцтва аб пераносе чаргі на кватэру.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Перамога над аўтобуснымі "зайцамі"

Год таму ў Навагрудку ў гарадзкія аўтобусы вярнулі кандуктараў, каб змагацца з безьбілетнікамі. Цяпер тое самае зрабілі і ў суседнім Слоніме. За першы месяц было прададзена талонаў і месячных праязных у 3,5 разы больш, як раней. Аднак вынік можа быць не такі ўжо відавочны, калі вылічыць з гэтай сумы кошт утрыманьня саміх кандуктараў.

**В.В.**

## У Рыжкавічах будзе газ

У знакамітай вёсцы Рыжкавічы Шклоўскага раёну нарэшце зьявіцца прыродны газ, якога тут чакалі амаль дзесяць гадоў.

Будаўнікам паставілі задачу завяршыць работы да сёмага лістапада.

**Аляксандар ШЧЭРБАК**

## "Сузор'е" адмовілася працаваць

У мінулы панядзелак, 23 кастрычніка, рабочыя Гарадзенскай фабрыкі "Сузор'е" адмовіліся працаваць і разышліся.

Са жніўня яны не атрымліваюць заробак. Рабочыя пачалі збор подпісаў за тое, каб замяніць свайго дырэктара, дэпутата Вярхоўнага Савету сп.Балоціна.

**П.П.**

## Шклоўскія агітбрыгады

Шклоўскія ўлады першымі ў Магілёўскай вобласьці выканалі загад прэзідэнта аб стварэньні інфармацыйна-прапагандысцкіх групаў.

На радзіме прэзідэнта ўжо дзейнічаюць чатыры такія агітбрыгады, якія паводле графіка аб'яжджаюць калгасныя мэханізаваныя двары і фэрмы. Палітінфарматары тлумачаць сялянскаму люду, як трэба правільна разумець палітыку прэзідэнта.

У размове з карэспандэнтам СВАБОДЫ намесьнік старшыні Шклоўскага райвыканкаму М.Чапялінскі сказаў, што з надыходам зімовастойлавага пэрыяду ў прапагандыстаў прыбавіцца работы вяскоўцам будуць тлумачыць, як і што трэба рабіць, каб "добра перазімаваць".

**Валодзя ЯНЧУК**



## Мытны саюз: ад часткі сувэрэнітэту давядзецца адмовіцца

*23 кастрычніка адбылася прэс-канфэрэнцыя прадстаўніка дзяржаўнага мытнага камітэту Расеі пры мытнай службе Беларусі Валерыя Драганава, а таксама ягоных намесьнікаў*

Гаворачы пра лёс мытнага саюзу паміж Беларусьсю і Расеяй, сп.Драганаў, заявіў: "Калі б мытны саюз паўтарыўся яшчэ раз, то я б за яго ня ўзяўся. Справа аказалася вельмі складанай". Найбольшыя праблемы ўзьніклі з прычыны адрозненьняў у заканадаўствах Расеі і Беларусі, але цяпер заканадаўчая база дзьвюх краінаў практычна ўніфікаваная. Паводле словаў сп.Драганава, Беларусі абавязкова патрэбен парламант, які б мог унесьці адпаведныя папраўкі ў законы. Расейскі мытнік выказаў апасеньне, што з прычыны рознасьці пазіцыяў мытных кодэксаў Расеі і Беларусі (у Беларусі кодэкс мякчэйшы) магчымае перацяканьне расейскіх злачынных груповак у Беларусь.

Лёс сотні расейскіх мытнікаў, якія знаходзяцца на беларускай мяжы, з меркаваньня сп.Драганава, ужо практычна вырашаны: большая іх частка вернецца назад у Расею. "З сотні чалавек застанецца толькі 9-15 расейскіх прадстаўнікоў, якія будуць займацца праблемамі глабальнага маштабу". Са словаў сп.Драганава вынікала, што падрыхтаванасьць беларускіх мытнікаў не зусім задавальняе расейскі бок "і, канечне, было б лепш, калі б прымяняліся расейскі тэхналогіі, але нам давядзецца наводзіць парадак рукамі беларускіх мытнікаў". У хуткім часе будуць створаныя атрады мытнай аховы, структура якіх трымаецца ў сакрэце.

Адказваючы на пытаньне, як паўплывае на лёс мытнага саюзу далучэньне да яго Казахстана і Кіргізіі, сп.Драганаў паведаміў: "Для стварэньня адзінага паўнавартаснага мытнага саюзу дзяржавам давядзецца адмовіцца ад часткі свайго сувэрэнітэту. Мытны саюзу ў ідэале павінен утрымліваць адзіныя мытныя тарыфы, тэрыторыі, кодэкс, а таксама адзінае кіраваньне. У пэрспэктыве будзе створаны наднацыянальны орган, куды будуць паступаць, а потым разьмяркоўвацца ўсе даходы ад дзейнасьці мытняў. Па аналогіі з Эўрасаюзам".

Камэнтуючы ход перамоваў урадаў Расеі і Беларусі пра паніжэньне для Беларусі мытных пошлінаў на аўтамабілі, сп.Драганаў адзначыў: "Урад Беларусі дзейнічае ў гэтым накірунку надзвычай настойліва. Падрыхтаваны праект пагадненьня, і далей пошліны на аўтамабілі, якія ўвозяцца ў Беларусь, магчыма, будуць перагледжаныя".

**СІМ**

## Чарговая тысяча беспрацоўных

У Магілёўскім цэнтры занятасьці карэспандэнту СВАБОДЫ паведамілі, што хутка да цяперашніх 6 тысяч беспрацоўных горада далучыцца яшчэ адна тысяча.

Рэч у тым, што бліжэйшым часам чакаюцца масавыя скарачэньні на буйнейшых прадпрыемствах Магілёва.

## Ці сядуць кітайцы ў Быхаве?

Кітайцы плануюць скарыстоўваць былы вайсковы аэрадром у Быхаве для дальніх пералётаў з Азіі ў Эўропу.

З гэтай нагоды Быхаў наведаў гандлёвы дарадца пасольства Кітая ў Беларусі Чжао Хуа. Тутэйшы аэрадром можа прымаць усе віды сучасных самалётаў.

## Закідаем Брытанію шапкамі

Шапкі-вушанкі са штучнага футра, якія выпускае магілёўскае прадпрыемства "АКМО", зацікавілі ангельскую гандлёвую фірму. У Брытанію адпраўлена першая партыя шапак. Магілёўцы чакаюць новую замову.

## Гарэлкі стане менш

Спад вытворчасьці ў Магілёве закрануў нават віна-гарэлачную прамысловасьць.

Аб'ёмы вытворчасьці гэтай прадукцыі зьнізіліся сёлета на 12%.

## Даша паехала ў Гародню

Паўгады таму магілёўскі прадпрымальнік Анатоль Аношкін купіў сабе маладую мядзьведзіцу Дашу. Ён прапаноўваў гарадзкім уладам і прадпрымальнікам стварыць у Магілёве заапарк.

Але ніхто, акрамя дзяцей, ягоную прапанову не падтрымаў. Цяпер Даша зьяжджае ў гарадзенскі заапарк, дзе жыве ейны аднагодка.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**



## БЕЛАРУСКІ ФОНД СОРАСА

**абвяшчае ў межах праграмы «Мас-медыя» конкурс тэлевізійных сюжэтаў на тэму**

### «Гісторыя малых гарадоў Беларусі»

***Мэта конкурсу*** - з дапамогай тэлебачання прыцягнуць увагу мясцовых і рэспубліканскіх уладаў да захавання гістарычнай спадчыны беларускага краю.

У конкурсе могуць удзельнічаць недзяржаўныя тэлекампаніі, незалежныя творчыя групы і супрацоўнікі музеяў.

**Удзельнікі конкурсу прадстаўляюць свае праграмы на відэакасетах фармату VHS. (Увага! Пачатковы матэрыял фармату S-VHS або Betacam неабходна захаваць для магчымага перамантажу на Беларускім тэлебачанні).**

Матэрыял павінен быць агучаны на беларускай мове. Працягласць адной конкурснай тэлепраграмы - не больш чым 30 хвілін.

Да відэаматэрыялу неабходна прыкласці анатацыю з наступнымі звесткамі:

- ***назва тэлекампаніі (творчай групы);***
- ***прозвішча кіраўніка, яго адрас і тэлефон;***
- ***прозвішча рэжысёра;***
- ***прозвішча аператара;***
- ***тэлевізійнае абсталяванне, якое было выкарыстана.***

**Пераможцы конкурсу** - стваральнікі трох лепшых фільмаў - **атрымаюць фінансавую падтрымку.** Акрамя таго, кампетэнтным журы будуць абраны і ўзнагароджаны **лепшы сцэнарыст, лепшы аператар і лепшы рэжысёр.**

Апошні тэрмін падачы матэрыялаў -

**11 снежня 1995 года.**

Відэаматэрыялы для ўдзелу ў конкурсе і анатацыі да іх дасылаюцца на адрас: **220027 г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 65, корп. 11А, пакой 103,** Беларускі Фонд Сораса, з пазнакай: **на конкурс «Гісторыя малых гарадоў Беларусі».**

З пытаннямі звяртайцеся па тэлефонах:
**(0172) 32-70-64, 32-77-13, 39-91-21, 32-80-92, 39-93-46.**

# Афіцыйны Менск падтрымлівае рэжым Садама Хусэйна

*Агенцтва Інтэрфакс распаўсюдзіла камэнтар, які даў Уладзімер Замяталін пасьля свайго візіту ў Ірак*



У.Замяталін паведаміў, што мэтаю ягонага візіту ў Багдад было назіраньне за ходам правядзеньня нацыянальнага рэфэрэндуму аб працягу паўнамоцтваў прэзідэнта С.Хусэйна яшчэ на 7 гадоў. Замяталін лічыць, што "плебісцыт прайшоў на дэмакратычнай аснове, і вынікі рэфэрэндуму, дзе 99,6% выбаршчыкаў выказаліся ў падтрымку палітыкі прэзідэнта С.Хусэйна, накіраванай на пабудову ў Іраку сацыяльна арыентаванай дзяржавы, народ цалкам падтрымлівае".

У сувязі з гэтым, "палітыка, якую праводзіць Савет Бясьпекі ААН і ЗША з 1991 года ў адносінах да Ірака", паводле ацэнкі У.Замяталіна, "на сёньня зьяўляецца ўзаконенай акцыяй ізаляцыі 18-мільённага народа ад сусьветнай супольнасьці".

Высокапастаўлены беларускі чыноўнік ахарактарызаваў як "безнравственное" эканамічнае эмбарга ў адносінах да Багдаду і ўказаў на неабходнасьць "хутчэйшага шырокамаштабнага ўмацаваньня і пашырэньня міждзяржаўных адносінаў і гандлёва-эканамічных сувязяў Менска з гэтай краінай"."Калі ЗША сапраўды маюць намер устанаўліваць свае ядзерныя рэактары ў Паўночнай Карэі, то чаму гэта ня могуць зрабіць Расея ці Беларусь у Іраку?" – адзначыў У.Замяталін.

Намесьнік кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі таксама паведаміў пра сваю сустрэчу з віцэ-прэм'ерам Ірака Тэрэкам Азізам, на якой былі абмеркаваныя праблемы устанаўленьня дыпламатычных адносінаў паміж дзьвюма краінамі. Паводле ягонага меркаваньня, "для Беларусі гэта будзе важнейшы крок у рэалізацыі сваіх дзяржаўных інтарэсаў на Блізкім Усходзе".

У.Замяталін таксама адзначыў, што Т.Азіз выказаў гатоўнасьць наведаць у бліжэйшы час Менск. Мяркуецца, што падчас сустрэч з прэзідэнтам Рэспублікі А.Лукашэнкам і іншымі афіцыйнымі асобамі будзе абмеркаваная праграма беларуска-іракскага супрацоўніцтва.

**Інтэрфакс**

# Па закону – значыць: супраць прэзідэнта

**Беларускі ЦК (наш "Белы Дом" інакш як ЦК ніколі і не называлі) вуснамі свайго афіцыйнага прадстаўніка С.Посахава ўпершыню афіцыйна заявіў пра свой курс на далучэньне да Расеі.**

*Тое, што ў Беларусі з законамі нешта ня так, стала зразумела год ці два раней*

Гэтая адкрыта антыканстытуцыйная заява (разам з цэлым шэрагам антыканстытуцыйных указаў і дзяньняў прэзідэнта) канчаткова ліквідуе ўсялякае прававое поле ў краіне. Цяпер кожны можа рабіць усё, што яму ўздумаецца! Тэрмін "антыправавое дзеяньне" набывае іншае значэньне – "антыпрэзідэнцкае дзеяньне". Прычым гэта, як правіла, – процілеглае значэньне. Ўсё, што супярэчыць закону, не супярэчыць прэзідэнту і наадварот. Адзіным інструмэнтам усталяваньня парадку застаецца сіла і яе застрашальны эфэкт.

Тое, што ў Беларусі з законамі нешта ня так, стала зразумела год ці два назад. Такія "забытыя" цяпер факты як інцыдэнт з крадзяжом ў самалёце "Пэкін–Менск", інцыдэнт з арыштаванымі незаконнымі плакатамі кандыдата ў прэзідэнты А.Лукашэнкі, інцыдэнт з замахам на кандыдатам пад Лёзнам, – такія факты сьведчаць, што ў Беларусі ўлада ўзурпаваная людзьмі з выразна крымінальнай сьвядомасьцю. Наступныя інцыдэнты толькі пацьвярджалі гэта. Прэзідэнцкі разбой у Вярхоўным Савеце, шэраг "нераскрытых" забойстваў дзеячоў розных рангаў і сфэраў, расстрэл амэрыканскіх спартоўцаў на паветраным шары... Словам, рабі, што хочаш, калі маеш сілу.

Але што ў такой сітуацыі мусяць рабіць законапаслухмяныя грамадзяне? Адно –усімі сіламі і сродкамі змагацца за выкананьне законаў і першага з іх – Канстытуцыі. А паколькі такое змаганьне на кожным кроку супярэчыць інтарэсам прэзідэнцкай каманды, то гэта значыць – змагацца супраць прэзідэнта і ягонай адміністрацыі, супраць беззаконьня і крымінальнай сьвядомасьці.

Нехта заўважыць, што Лукашэнка падтрыманы народам. Народам, – працягнем гэтую думку, – для якога таксама не існуюць законы і Канстытуцыя. Гэта значыць, што Лукашэнка падтрыманы натоўпам. Народ – паняцьце традыцыйнае. А традыцыя ўключае ў сябе спадчынныя і дэмакратычныя каштоўнасьці, у тым ліку – законапаслушэнства. Большасьці нашых людзей такія каштоўнасьці яшчэ не вядомыя, таму што большасьць нашых людзей яшчэ ня стала народам. Яна, большасьць, жыве толькі сёньняшнім днём і ня думае пра пэрспэктыву, таму што ня мае ніякай уласнасьці. У нашай краіне ва ўласнасьць людзям перададзена менш за 10% дзяржаўнай маёмасьці (для параўнаньня, у Літве – 80%). Пры гэтым уласьнікамі ў нас становяцца асобныя людзі, а асноўная маса так і застаецца "бясштанай камандай". Уладзе, якую выбраў такі народ, выгадна, каб ён заставаўся такім, каб жыў не стваральным штодзённым клопатам, зарабляючы на сябе, на дзяцей і ўнукаў, а ў голым полі пастаяннай нэрвознасьці і палітычнай намагнічанасьці.

Для законапаслухмяных грамадзян ў такой сітуацыі ёсьць толькі адзін спосаб змаганьня з крымінальнаю ўладай – стварыць ёй альтэрнатыву. Прычым альтэрнатыва можа быць толькі тады, калі яна адпаведная. Апэляцыі да нацыянальнай сьвядомасьці, традыцый, дэмакратычных каштоўнасьцяў не спрацоўваюць на большасьць, бо большасьць ня мысьліць катэгорыямі пэрспэктывы. Гэта значыць, што альтэрнатыва Лукашэнку магчымая толькі ў сёньняшніх катэгорыях часовасьці, сілы, моцнай харызмы. Адзіным яе адрозьненьнем ад крымінальнае сьвядомасьці будзе дэклярацыя законапаслушэнства. У астатнім такі чалавек мусіць быць "варты" прэзідэнта-ўзурпатара.

Хто гэта можа быць канкрэтна – тэма асобнага аналізу.

**Сяргей ДУБАВЕЦ**

# У журналістаў сьвята – прыехала місія МВФ

Гэтым тыднем ў Менску пачала сваю дзейнасьць чарговая місія Міжнароднага валютнага фонду. 8 чалавек з Эўрапейскай управы МВФ на чале з французам сп.Капурам правядуць шэраг сустрэч у міністэрствах і ўстановах Беларусі, вывучаючы сёньняшнія эканамічныя паказьнікі нашай краіны. Прадугледжаныя візіты ў Міністэрства фінансаў, Дзяржкамітэт па кіраваньні дзяржмаёмасьцю, Нацыянальны банк, Кабінэт міністраў. Мяркуецца сустрэча з прэм'ер-міністрам Міхаілам Чыгіром, спатканьне з прэзідэнтам Беларусі ў планы місіі пакуль не ўваходзіць.

Асноўная задача місіі – прааналізаваць падрыхтаванасьць Беларусі да атрыманьня другой часткі крэдыту stand by. Нагадаем, што гэты крэдыт быў выдзелены ў верасьні памерам амаль 300 млн. даляраў і выдаецца ў 5 траншах (частках). Першы транш, каля 70 млн. даляраў, Беларусь ужо атрымала, але дасюль ніводны з афіцыйных чыноўнікаў нідзе не паведамляў, на якія мэты мяркуецца накіраваць грошы МВФ. Таму кожны прыезд місіі зьяўляецца своеасаблівым сьвятам для журналістаў –толькі так яны могуць атрымаць інфармацыю пра многія недаступныя факты. У прыватнасьці, ужо больш за месяц прайшло пасьля падпісаньня прэзідэнтам праграмы прыватызацыі, але дасюль ніводнае з выданьняў ня можа атрымаць гэты "сакрэтны" дакумант.

Можна спадзявацца, што дзякуючы прыезду місіі, здабыткам шырокай грамадзкасьці стане і праект бюджэту краіны на наступны год, які ў пачатку гэтага тыдня міністэрства фінансаў перадала на разгляд Кабінэту міністраў. Відавочна, што менавіта праект бюджэту стане асноўным прадметам увагі прадстаўнікоў МВФ – найперш паказьнікі, што характарызуюць макраэканамічную стабілізацыю і грашова-крэдытную палітыку дзяржавы.

Досьвед стасункаў МВФ з краінамі-атрымальнікамі паказвае, што апроч надзвычайных абставінаў, вынікі работы місіі ня ўплываюць на паступленьне ўжо выдзеленых грошай. Іншая справа, што Беларусь зараз сустракаецца з пэўнымі складанасьцямі наконт суфінансаваньня крэдытаў. Рэч у тым, што акрамя рашэньня пра выдзяленьне грошай, трэба яшчэ атрымаць гарантыі ад краін-крэдытораў на фінансавую падтрымку прынятай праграмы дзеяньняў. На нядаўняй прэс-канфэрэнцыі міністар фінансаў Беларусі Павел Дзік прызнаў, што зьнешніх крыніцаў фінансаваньня не хапае для падтрымкі дэфіцыту бюджэту ў зададзеных параметрах. У апошнія месяцы, з вядомых палітычных прычынаў, пошук міжнародных фінансавых спонсараў ускладніўся і стаў асноўным галаўным болем для кіраўніцтва Беларусі.

**Алесь ГАНКОВІЧ**

# Пра фон да візіту фон Мольтке

**Палітычны памочнік генэральнага сакратара NATO Герхарт фон Мольтке, які днямі наведаў Беларусь, каб высьветліць нашае стаўленьне да пашырэньня NATO і да праграмы супрацоўніцтва з Паўночнаатлантычным альянсам, у выніку "нарваўся на шчырасьць". Інакш не назавеш заяву нашага прэм'ера Міхаіла Чыгіра, згодна якой, далейшае "партнэрства" Беларусі і NATO магчымае толькі пры ўмове ўзгадненьня пазіцый пры непасрэдным удзеле расейскага боку.**

*"Партнэрства" Беларусі і NATO магчымае толькі пры ўмове ўзгадненьня пазіцый пры непасрэдным удзеле расейскага боку*

У пачатку вясны Беларусь падпісалася пад праграмай "Партнэрства дзеля міру". Тады нашая краіна яшчэ мела нейкія шанцы ўспрымацца Захадам, калі ня цалкам самастойнай дзяржавай, то ўсё ж не маўклівым прыдаткам усходняга суседа. Але з таго часу адбылося шмат падзеяў, якія зьмянілі гэтыя адносіны. Аднабаковае спыненьне прэзідэнтам Беларусі працэсу зьнішчэньня звычайных узбраеньняў, рэфэрэндум, які прадэманстраваў адсутнасьць у сьвядомасьці большасьці беларусаў каштоўнасьці незалежнасьці, заява Лукашэнкі пра неабходнасьць "блакіроўкі" супраць NATO не маглі не раскрыць вочы Брусэлю на сапраўдны Менск. Аднак праграма была падпісаная, у межах яе трэба было варушыцца і пэўныя кантакты працягваліся. Чым гучней Масква крытыкавала NATO, тым неабходней Брусэлю было стварыць хаця б выгляд, што там прыслухоўваюцца да ўсіх бакоў. Да таго ж сам Лукашэнка напярэдадні сустрэчы ў Нью-Ёрку даў маленькую надзею на пацяпленьне ў дачыненьнях: сустрэўся з амэрынскімі бізнэсмэнамі, аднавіў зьнішчэньне савецкіх танкаў. Ды і ягоны безвынікoвы візіт у Сочы ня мог быць не заўважаным.

Карацей кажучы, у апошні момант напярэдадні ад'езду ў Менск Герхарт фон Мольтке мог атрымаць даручэньне акрамя правядзеньня "візіту ветлівасьці", пашукаць у лукашэнкаўскім рэжыме заходнія сімптомы. Што адбылося?

Першая частка місіі, відаць, удалася абодвум бакам. Беларускі бок прадэманстраваў сваю халоднасьць. Прэзідэнт Лукашэнка не прыняў пасланьніка генэральнага сакратара NATO (не па чыне!), Чыгір падараваў яму толькі "45 хвілінаў свайго часу. А потым адбылася кароткая прэс-канфэрэнцыя выключна для дзярж-тэлебачаньня і БелТА. У выніку, надзвычай сьціплы водгук у прэсе, не параўнальны з тэмай якіх-небудзь малдаўскіх памідораў. Але Фон Мольтке, відаць, на большае і не разьлічваў. Нездарма мэтай візіту ён назваў толькі разьведку, маючы на ўвазе разьведку стаўленьня Беларусі да пашырэньня NATO і да разьвіцьця праграмы "Партнэрства дзеля міру".

Натаўскі пасланьнік атрымаў рашучае беларускае "не". А пра разьвіцьцё "партнэрства" яму далі зусім цікавы адказ: яно магчымае "толькі пры ўмове ўзгадненьня з расейскім бокам!". Больш таго – удзелу гэтага боку ў перамовах. Спытаемся, хто ж цягнуў беларускага прэм'ера на такі "ўльтыматум турэцкаму султану"? Ну пацьвердзіў бы, што "мы" супраць пашырэньня NATO на ўсход, дадаў бы дыпламатычна, што "партнэрыць" зьбіраецеся адносна падпісаных дакумантаў ды магчымасьцяў, паціснуў мольткаву руку ды "гуд бай, дзядзя". Навошта ж перад усім сьветам выстаўляцца на пасьмешышча, дэманструючы сваю залежнасьць ды бездапаможнасьць?

Паспрабую пашукаць адказ. Мне здаецца гэтая дэманстрацыя не выпадковая. Па ўсіх паказчыках мы напрамую аказаліся зьвязаныя з "блокабудаўніцтвам", якім занялася ў апошнія часы Масква (у падмурак ужо вырашылі "забэтаніраваць" Андрэя Козырава ды, за кампанію, відаць, нашага Ўладзімера Сянько). Расеі абавязкова неабходна стварыць блок, інакш яе абуджаныя імпэрскія амбіцыі немагчыма апрануць у сучаснае цывілізаванае адзеньне. Патрэбная кампанія. Але дзе яе ўзяць? Прыбалтыка адмовілася даўно, Малдову перасмыквае нагадваньне пра адну 11-ю армію, Украіна глядзіць на ўсход больш падазрона, хіба што Арменія ды Таджыкістан зараз цалкам за блочнае каханьне. Але пры чым тут Эўропа ды планы пашырэньня NATO? Бачна, што Расея імкнецца за кошт супрацьстаяньня атлантычнай арганізацыі захаваць свой уплыў на Ўсходнюю Эўропу, якая ад яе адвярнулася як маладая каханка ад старога імпатэнта. І такім чынам робіцца спроба захаваць імідж супэрдзяржавы, які ўжо не адпавядае рэчаіснасьці. У сваю чаргу імідж супэрдзяржавы павінен дапамагчы як на вонкавым, так і на ўнутраным франтах – выбары. Мне бачыцца, што менавіта у гэтых планах і выконвае сваю ролю беларускае кіраўніцтва, якое агучвае маскоўскія канспэкты пра натаўскую пагрозу. Вось дзеля гэтага і дэманструецца імкненьне параіцца з суседам, узгадніць пытаньне.

Але, калі ўжо блок, калі сапраўды ўзгадненьне пазіцыяў становіцца рысай узаемаадносінаў, лагічна запытаць: можа мы хутка пачуем і ад расейскіх калегаў: "Трэба параіцца з браткамі-беларусамі..." Пры ўсім захапленьні фантастыкай, такое ўявіць не магу. І не таму, што Масква такая-сякая і ніколі не лічылася з суседзямі, тым больш у вайсковых пытаньнях. Проста стратэгія вялікай краіны дыктуе адно. Стратэгія малой – у іншым. У нашай Канстытуцыі запісана імкненьне да нэйтралітэту, а калі зазірнуць у стратэгічны курс Расеі адносна краінаў СНД, мы ўбачым там такія тэрміны, як "зона інтарэсаў" ды "уплыў". Расеі не патрэбны наш нэйтралітэт, і таму ён на вачах адлятае ў паветра. Таму наш прэм'ер-міністар абумоўлівае праграму партнэрства з NATO "ўзгадненьнем з расейскім бокам". Што ўзгадняць? Колькасьць вышэйшых афіцэраў, якія паедуць у Брусэль у чарговую камандзіроўку?.. Чуючы такія ўмовы, цяжка ня скласьці наступную дылему: альбо паважаны спадар Чыгір ўжо не прэм'ер у сувэрэннай краіне, альбо ён забыўся напярэдадні патэлефанаваць спадару Чарнамырдзіну і таму абяцае больш так не рабіць.

**Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ**

